Пралетары ўсіх краёў, злучайцеся!

# Паляўнічы Беларусі

Орган Беларускага прамыслова-кооперацыйнага саюзу паляўнічых

1929
№ 8
Жнівень

Год выданьня
III





Прыслухоўваецца.

*Няхай жыве саюз рабочых і сялян!*

# Паляўнічы Беларусі

№ 8 Жнівень 1929

Штомесячная часопісь орган Белкахотсаюзу
Год выданьня 3-ці

ПАДПІСНАЯ ПЛАТА:
На 1 год . . 2 р.
На 6 м-цаў . . 1 р. 20 к.
На 3 м-цы . . 70 к.

АБВЕСТКІ:
Старонка перад тэкстам 150 р.
На апошн. стар. вокл. 100 р.
Ззаду тэксту . . . 70 р.
Аб прапажы сабак . . 1 р.
Аб прадажы сабак . . 3 р.

АДРАС РЭДАКЦЫІ:
*Менск, Савецкая, № 71. Тэлефон—405.*

## ЗЬМЕСТ

Дадзім дзяржаве сродкі. Што рабіць у бягучую асеньнюю сельска-гаспадарчую кампанію—**Масюкоў.** Пытаньне паляўнічай гаспадаркі на пасяджэньні Экана—**Міх. Шмідт.** Дзічы прыбавілася—**Цэлеш.** Прожорливость ястребов—**Ц.** Охота по боровой птице—**Н. М.** Паляўнічыя боты ўзімку—**Н. М.** Як лавіць кратоў—**Паўлюц.** О выборе ружья—**Л. Холмский.** Замест пораху два зарады шроту—**Ц.** Конкурс правальваецца—**Рэдакцыя.** Чернопегая в румянах—**В. Ветова.** Па паляўнічых сьцежках—**Тарас Палясоўшчык.** Справы, кіраўнікі і вартаўнікі Белдзяржзапаведніку. Начальства палюе—**Група паляўнічых.** Валакіта з стральбой—**Паўлюц.** Жыцьцё на мясцох. Значение рыбы, как пищевого продукта—**В. Е—ов.** Состязания на лучшего рыболова—**Участник.** Какая собака нужна охотнику-полупромышленнику Белоруссии—**Б. Криштафович.** Адусюль аб усім. Паштовая скрынка. Перапіска з чытачом.



# ДАДЗІМ ДЗЯРЖАВЕ СРОДКІ.

### Пасьпяховая рэалізацыя пазыкі—залог росту абароназдольнасьці краіны.

РАБОЧАЯ кляса і працоўнае сялянства пад кіраўніцтвам партыі Леніна пачалі ажыцьцяўленьне 5-цігадовага пляну сацыялістычнага будаўніцтва, задачай якога зьяўляецца вялізнае разьвіцьцё прамысловасьці і сельскай гаспадаркі на аснове яе калектывізацыі і арганізацыі буйных саўгасаў, уздыму вытворчых сіл краіны, забесьпячэньня кіруючай ролі сацыялістычнага сэктару ў народнай гаспадарцы і павялічэньня матар'яльнага і культурнага ўзроўню працоўных. Усё гэта павінна ўзмоцніць эканамічную і палітычную базу пролетарскай дзяржавы.

Згодна 5-цігадовага пляну ў прамысловасьць будзе ўкладзена 16.400.000.000 руб. супроць 4.200.000.000 р. за мінулую пяцігодку і ў сельскую гаспадарку 23.200.000.000 руб. супроць 14.900.000.000 руб. за мінулыя пяць год. Такім парадкам для выкананьня 5-цігадовага пляну будуць патрэбны вялікія сродкі, частка якіх павінна быць атрымана праз пазыку. Неабходнасьць выпуску пазыкі дыктуецца гэтым плянам і тэмпам індустрыялізацыі краіны.

Гэтую неабходнасьць зразумела перадавая частка рабочае клясы, якая ў сваіх рэзалюцыях, прапановах і зваротах да ўраду выразна выказала думку аб своечасовасьці выпуску 3-й пазыкі індустрыялізацыі народнае гаспадаркі Саюзу ССР.

Урад у сучасны момант выпусьціць 3-ю пазыку індустрыялізацыі народнай гаспадаркі Савецкага Саюзу на суму 750 мілёнаў руб. Перад намі стаіць задача дапамагчы ўраду ў рэалізацыі яе. Працоўнае насельніцтва, купляючы дзяржаўныя пазыкі, тым самым накіроўвае свае сродкі на ўзьняцьцё прамысловасьці сельскай гаспадаркі. Дзяржаўная пазыка за апошнія гады значна пашырылася. Напрыклад: на 1 кастрычніка 1925 г. Дзяржава была вінавата насельніцтву па пазыках 137.000.000 р. на 1 кастрычніка 1927 г. сума паднялася да 283.000.000 руб., на 1 кастрычніка 1928 г. да 637.000.000 руб. і, нарэшце, на 1 красавіка 1929 г. дзяржаўны доўг насельніцтву дасягнуў 1.133.000.000 р.

Гэтыя лічбы паказваюць, якой важнай дапамогай дзяржаве індустрыялізаваць краіну зьяўляюцца зьберажэньні насельніцтва.

Бязумоўна, што і 3-я пазыка індустрыялізацыі спаткае такое падтрыманьне з боку працоўнага насельніцтва, як і папярэднія пазыкі. Яе хуткая і поўная рэалізацыя ёсьць лепшы заклад пасьпяховага выкананьня мерапрыемстваў, якія вызначаны 5-цігадовым плянам. Гэта, у сваю чаргу, будзе зьяўляцца лепшым адказам імпэрыялістам усіх колераў і замацуе пазыцыі пралетарскай дзяржавы.

3-я пазыка індустрыялізацыі—гэта 750.000.000 р., якія мы пазычаем пралетарскай дзяржаве на індустрыялізацыю краіны—гэта удар па цяжкасьцях, якія сустракаюцца на шляху нашага вялікага будаўніцтва. 3-я пазыка індустрыялізацыі ўзмоцніць нашу абароназдольнасьць. 3-я пазыка індустрыялізацыі—гэта новыя фабрыкі і заводы, электрастанцыі, саўгасы і калгасы.

Працоўнае сялянства павінна, як і рабочая кляса, падпісацца на 3-ю пазыку!

Бяз 3-й пазыкі не павінен застацца ніводзін сялянскі двор!

Мы лічым, што ўся паляўнічая маса Беларусі не адстане — адгукнецца на заклік ураду і падпішацца на 3-ю пазыку індустрыялізацыі.

Ніводнага каапэраванага паляўнічага бяз 3-й пазыкі індустрыялізацыі!

**Ніводнага паляўнічага—БЕЗ АБЛІГАЦЫІ 3-ЯЙ ПАЗЫКІ ІНДУСТРЫЯЛІЗАЦЫІ!**

# Што рабіць у бягучую асеньнюю сельска-гаспадарчую кампанію.

*(Артыкул нам. Наркамзема т. Масюкова).*

КАМУНІСТЫЧНАЙ партыяй і савецкай уладай перад усімі працоўнымі вёскі пастаўлены наступныя задачы: 1) павялічыць масавае каапэраваньне і калектывізацыю; 2) павысіць ураджайнасьць палёў у індывідуальных сялянскіх гаспадарках на 7%, у калектыўных гаспадарках на 12% і ў саўгасах на 20%; 3) павялічыць пасеўную плошчу на 1,5%, ачысьціць пасеўнага матар'ялу ня менш 65%; 4) палепшыць апрацоўку палёў і сваечасова засеяць поле; 5) зрабіць захады па палепшаньню сенажацяў.

У адпаведнасьці з гэтымі асноўнымі лёзунгамі партыі я і хачу зьвярнуць увагу чытачоў на ажыцьцяўленьне іх, і якую карысьць яны прынясуць земляробу.

Масавая калектывізацыя і каапэраваньне беднаты ёсьць адзіна правільны шлях да таго, каб пры наяўнасьці меншае колькасьці інвэнтару сваечасова засеяць зямлю. Масавая калектывізацыя і каапэраваньне сялянскіх гаспадарак даюць магчымасьць больш мэтазгодна скарыстаць зямельную тэрыторыю: менш мяжы, дарог—больш удобнай зямлі, а раз менш мяжы, дарог—менш сарнякоў і адсюль, менш шкоднікаў сельскае гаспадаркі.

Гаворачы аб павялічэньні зямлі ў калгасах за кошт мяжы і дарогі, мне-б хацелася прывесьці наступную лічбу. Па ўчыненым Навукова-дасьледчым інстытутам абследваньні высьвятлена, што толькі ад аднаго зьнішчэньня мяжы пры земляўпарадкаваньні, у вёсцы павялічваецца зямлі на 3%. Бядняцкая гаспадарка траціць на мяжы да 8%, серадняцкая да 5% і кулацкая да 3%.

Трэба заўважыць, што ў кожнай вёсцы маюцца і нескарыстаныя вучасткі, якія неабходна безадкладна ўцягнуць у сельска-гаспадарчую эксплёатацыю.

Наяўнасьць вялікага проценту дробных сельскіх гаспадарак не дае магчымасьці падвысіць ураджайнасьць да сярэдняга ўраджаю, які за мяжой дасягае да 150 пуд. з дзесяціны, а ў нас у саўгасах у гэтым годзе сярэдні ўраджай азімых дасягае да 70 пуд., а ў сялян—толькі 45 пуд. Такі нізкі ўраджай ёсьць вынік таго, што наша сялянская гаспадарка не скарыстоўвае нават і тых прасьцейшых агратэхнічных мерапрыемстваў, якія ёй даступны.

На гэтае самае сялянская гаспадарка павінна зьвярнуць самую сур'ёзную ўвагу і зрабіць ачыстку ўсяго пасеўнага матар'ялу, што павысіць ураджайнасьць ад 3 да 7%. Трэба завезьці палепшаны пасеўны матар'ял, які дае павялічэньне ўраджайнасьці ад 8 да 12%. Заражанае насеньне галаўнёй трэба пратруціць, сваечасова абкасіць межы, што дасьць павышэньне ўраджайнасьці ад 2 да 5%; лепшая апрацоўка глебы, скарыстаньне вапны, торфу, попелу як угнаеньня і, нарэшце, завядзеньне правільнага севазвароту, у якім было-б установлена ня сеяць жыта праз год;—а ў нас можна знайсьці цэлы рад вёсак, дзе ў гэтым годзе была пасеяна ярына, а ўвосень будзе сеяцца жыта і г. д.—усё гэта дасьць падвышэньне ўраджаю ад 2 да 7%.

Калі-б сялянская гаспадарка ўсё гэта скарыстала, то для павышэньня ўраджайнасьці ня існавала-б ніякіх цяжкасьцяй. Усё гэта ў нас ёсьць—і машыны зерняачышчальныя, і плугі замест сахі, і торпу колькі хочаш пад жыта; можна знайсьці ў кожнай вёсцы і агранамічны пэрсонал, які дапамагае пераходу на шматпольле, дае парады, як весьці барацьбу са шкоднікамі і як палепшыць сельскую гаспадарку. Патрэбна толькі жаданьне, ініцыятыва і адмова ад тых ссылак, што „мой бацька так жыў і я яго ня лепш". Але, калі бацька еў бяз хлеба, то сыну гэта рабіць зусім не абавязкова. Калі бацька не дабіваўся падымаць ураджайнасьці, то сын гэта павінен ажыцьцёвіць.

Некалькі слоў наконт корму для жывёлы. У нас гэтай справе ўдзяляецца з боку сялянскае гаспадаркі недастатковая ўвага і карова ў гаспадарцы зьяўляецца машынай, якая дае толькі гной, пры чым трэба зазначыць, што вельмі мала, бо яе кармленьне такое, горшага за якога прыдумаць нельга і трэба толькі зьдзіўляцца, як яна яшчэ выжывае. А ва ўсіх лёзунгах, кніжках сказана, што малако ў каровы на языку, а сенажаці ў нас парасьлі хмызьняком, мохам і г. д. Трэба ў гэту-ж восень дабіцца расчысткі хмызьнякоў, зрэзкі кочак, баранаваньня сенажацяй. Трэба там, дзе гэта выклікаецца неабходнасьцю асушыць балоты. Гэта дасьць магчымасьць у будучым даваць сена ня толькі коням і авечкам, а і каровам. У гэту-ж восень трэба азнаёміць з закладкай сіласных ям з кармамі і закласьці салому, а калі гэта ня ўдасца ў гэтым годзе, то падрыхтаваць закладку сіласных ям для будучага году, падрыхтаваўшы адначасова матар'ялы для засеву такімі культурамі, якія дадуць найбольшую колькасьць зялёнае масы. Лепшыя з гэтых культур—канюшына, кукуруза і г. д. Арганізаваўшы сіласныя ямы можна будзе пазбавіцца ад стыхіі, як, напрыклад, дажджы, якія часта не даюць сялянскай гаспадарцы убраць корм, а трэба сказаць, што ад няправільнай уборкі кармоў трата спажыўнасьці дасягае ня менш 50%.

Толькі пры тэй умове, калі пакінуць жыць сёнешнім днём, ды зглянуць у будучыну, магчыма будзе зрабіць з каровы малочную і гнаёвую машыну—а гэта, у сваю чаргу, створыць вялікія пэрспэктывы для належнага падняцьця таварнасьці і ўраджайнасьці сельскае гаспадаркі. Нарэшце, трэба ў гэтую асеньнюю сельска-гаспадарчую кампанію прарабіць усе агратэхнічныя мерапрыемствы ня толькі самому, а параіць суседу ўступіць з ім у спаборніцтва за лепшы ўраджай наступнага году.

Пры правядзеньні асеньняй пасеўнай кампаніі ў вёсцы знойдзецца цэлы рад шаптуноў. Я іх называю шаптунамі таму, што большая частка з іх пабаіцца выступіць адкрыта проці мерапрыемстваў па падняцьцю сельскае гаспадаркі, бо ведае, што зрыў гэтых мерапрыемстваў будзе перасякацца ў корані, а таму яны будуць нашэптваць з-за вугла пры правядзеньні асеньняй пасеўнай кампаніі. Трэба, каб бедната разам з серадняком рашуча павялі барацьбу з гэтымі шаптунамі—гэтым клясавым ворагам, імя якім—кулакі.




**Міх. Шмідт.**

# Пытаньне паляўнічай гаспадаркі на пасяджэньні Экана.

ПАСЬЛЯ ўсебаковага абгаварэньня 5-цігадовага пляну аднаўленьня паляўнічай гаспадаркі Саюзам Паляўнічых Наркамземам, Наркамгандлем і Дзяржплянам пяцігодка была пастаўлена на канчатковае абгаварэньне і зацьвярджэньне ў Эканамічнай Нарадзе пры Савеце Народных Камісараў Беларусі. Фактычна пытаньне паляўнічай гаспадаркі, яе разьвіцьцё ўрадавымі органамі разглядаецца ўпяршыню за ўвесь час існаваньня паляўнічай каапэрацыі на Беларусі.

Асноўнае рашэньне Ўраду па пяцігодцы—гэта пераважна разьвядзеньне пушной гаспадаркі, але-ж разам з гэтым Эканомнарада адзначыла, што:

— Прызнаючы за пушной гаспадаркай з пункту погляду экспарту пераважнае значэньне, лічыць аднак неабходным, каб у пляне была зьвернута ўвага і на іншыя аб'екты паляваньня.

Весьці тую ці іншую працу і асабліва такую, як плянава-арганізаванае будаўніцтва гаспадаркі ды яшчэ такое як паляўнічай, дзе ня так лёгка падлічыць, якая фаўна маецца ў тым ці іншым лесе бяз вучоту—значыць зусім нічога не рабіць. Таму перш рашэньне Экана па пяцігодцы—гэта вучот фаўны, дзе зварачваецца ўвага Саюзу паляўнічых на:

— арганізацыю вучоту асобных відаў паляўнічай фаўны для складаньня рацыянальнага пляну штогоднага адстрэлу як пушнога зьвера, так і птушкі, шляхам пасылкі праз апарат лясьніцтваў і саюзу паляўнічых адпаведных анкет і рэгістрацыі паляўнічай дабычы.

Бязумоўна, што сіламі апарату сыстэмы паляўнічае каапэрацыі і нават усімі паляўнічымі вельмі цяжка выканаць такую вялікую працу, як вучот, таму Экана пастанавіла:

— Даручыць Цэнтральнай статыстычнай управе сумесна з саюзам паляўнічых распрацаваць пытаньне аб арганізацыі статыстыкі паляўнічае справы.

За пастаноўку дасканалага вучоту паляўнічай фаўны, які ў нас амаль зусім адсутнічае, трэба будзе ўзяцца сур'ёзна. Да гэтае працы трэба прыцягнуць усю паляўнічую масу, усе нізавыя зьвеньні паляўнічае каапэрацыі, вучняў, студэнцтва і навуковыя сілы, дабіваючыся, каб і ўстановы статыстыкі згодна пастановы ўраду дапамагалі нам у гэтым.

Бяз вучоту паляўнічай фаўны, бяз вучоту таго, з чым і над чым мы павінны працаваць, нічога ня зробіш.

Дзяржаўны запрэтнік, які мае вельмі вялікае значэньне для Беларусі, аб якім, на вялікі жаль, яшчэ мала ведаюць працоўныя Беларусі, а ведаюць мала таму, што ў ім пакуль-што паказальнага нічога няма, дзякуючы кепскім адносінам да працы і адміністрацыі, і лясной варты, з чым чытач у гэтым нумару часопісі можа пазнаёміцца, павінен стаць сапраўды паказальным дзяржаўным запрэтнікам. На аднаўленьне дзяржаўнага запрэтніку ўрадам па дзяржбюджэту адпушчаецца 262.300 руб. Такая сума ўпаўне спрыяе, каб запрэтнік „паставіць на ногі". Народнаму камісарыяту земляробства, якому непасрэдна падпарадкаван запрэтнік, неабходна сур'ёзна ўзяцца за яго ахову, прыцягнуўшы да гэтае працы галоўнавуку, краязнаўства і іншыя навучальныя ўстановы.

На тэрыторыі дзяржаўнага запрэтніку жыве насельніцтва, якое таксама перашкаджае яго разьвіцьцю, па гэтаму Экана падкрэсьліла:

— згодна пастановы СНК ад 30 студзеня 1925 г. высяліць з тэрыторыі запрэтніка пражываючае там насельніцтва, якое шкодзіць паляўнічай гаспадарцы.

Народнаму камісарыяту земляробства трэба паскорыць гэту справу.

З паляўнічымі заказьнікамі, якіх у нас на паперы куды больш, чым фактычна існуе—справа абстаіць з рук вон кепска. Па дырэктыве Экана з колькасьцю заказьнікаў да канца пяцігодкі павінна абстаяць справа вось як:

— пашырэньне сеткі заказьнікаў да 100 штук да канца пяцігодзьдзя. З існуючых 38 заказьнікаў —18 зачыніць і адчыніць 80 новых з плошчаю ад 1.500 да 3.000 гэктараў кожны.

Праўда, колькасьць заказьнікаў да канца пяцігодкі супроць існуючых зараз невялікая, але-ж за большым нам пакуль-што нельга будзе ганяцца, бо практыка ўстанаўленьня паляўнічых заказьнікаў да гэтага часу паказала, што мы, як належа быць, ня справіліся з працаю ў гэтай галіне. Да працы па ахове заказьнікаў па разьвядзеньню там фаўны павінна быць прыцягнута ўся паляўнічая маса. Нізавая ячэйка і каляктыў, на тэрыторыі якіх знаходзяцца паляўнічыя заказьнікі павінны стаць сапраўды гаспадарамі гэтых заказьнікаў. Існуючыя да гэтага часу казённыя адносіны да заказьнікаў павінны быць зьменены гаспадарчымі адносінамі. Трэба памятаць і растлумачыць аб гэтым паляўнічым, што на заказьнікі і, наогул, на паляўнічую гаспадарку, як і на іншую галіну народнае гаспадаркі, выдаюцца сродкі, а таму трэба сур'ёзна сачыць, каб гэтыя сродкі ня былі выпушчаны ў паветра.

Чацьверты і пяты пункт пастановы Экана датычацца культурнае паляўнічае гаспадаркі і штучнага разьвядзеньня зьвера ў няволі. У іх прадугледжваецца:

— арганізацыя чатырох культурных паляўнічых гаспадарак, з якіх тры лясного тыпу з напрамкам на пушнога зьвера і адзін пераважна палёвага тыпу з шэрай курапаткай і зайцам;

— арганізацыя прамысловай зьверагадоўлі шляхам утварэньня гадавальнікаў пушнога зьвера ў паляўнічых культурных гаспадарках наступных відаў: серабрыста-чорных лісаў—4 гадавальнікі, трусоў—3, блакітных пясцоў сумесна з лісамі—1, куніцы, норкі і выдры—1 і бабра—1.

Вядзеньне культурнай гаспадаркі і штучнае разьвядзеньне зьвера ў няволі ў сыстэме паляўнічай каапэрацыі Беларусі справа зусім новая, таму мы павінны зараз-жа яшчэ і яшчэ раз праверыць, што намі зроблена для таго, каб распачаць гэту галіну працы.

Галоўны вораг паляўнічай гаспадаркі, які перашкаджае яе будоўлі—гэта драпежнік і браканьер. Праўда, мы да гэтага часу вялі барацьбу і з драпежнікамі і з браканьерамі, але-ж яна была ня зусім плянавая, ня зусім арганізаваная. Мясцовыя органы на мясцох ня зусім добра дапамагалі нам у гэтай рабоце. Па гэтаму пытаньню Экана дала свае канкрэтныя дырэктывы і зьвярнула ўвагу адміністрацыйных і іншых органаў на аказаньне дапамогі саюзу паляўнічых у гэтай рабоце.

У пастановах Экана па гэтаму пытаньню гаворыцца:

— узмоцніць барацьбу з драпежнікамі праз арганізацыю аблаў і прэміраваньне паляўнічых;

— упарадкаваць карыстаньне паляўнічымі ўгодзьдзямі праз забарону паляваньня на той ці іншы від фауны на тэрмін ад аднаго да трох год;

— барацьба з браканьерствам з выдаткам на пяцігодзьдзе 10.000 руб., шляхам: а) прэміраваньня лясьнікоў і міліцыі за выяўленьне браканьераў, б) забароны правініўшымся членам саюзу паляўнічых далейшага паляваньня, в) забароны загатоўчым арганізацыям куплі скуры зьвяроў і бітай птушкі, забароненых да адстрэлу, а таксама забароны куплі зьвера і птушкі, забітых ня ў вызначаныя правіламі паляваньня тэрміны;

— прыцягнуць адміністрацыю лясьніцтваў да больш актыўнага ўдзелу ў справе аховы паляўнічай фауны рэспублікі, для чаго распрацаваць адпаведную інструкцыю;

— Народнаму камісарыяту земляробства сумесна з саюзам паляўнічых і Народным камісарыятам унутраных спраў распрацаваць мерапрыемствы па больш жорсткай барацьбе з браканьерствам і арганізаваць фонд прэміраваньня асоб, якія вядуць гэту барацьбу за лік адлічэньняў у разьмеры 50% ад сум па продажу канфіскаванай паляўнічай зброі і штрафу за парушэньне правіл паляваньня. Аформіць палажэньне аб гэтым фондзе ў законадаўчым парадку.

Гэтых пастаноў упаўне досыць, каб паляўнічая гаспадарка пазбавілася ад свайго ворага—драпежніка і браканьера. Нам толькі застаецца ўзяцца за правядзеньне гэтых мерапрыемстваў у жыцьцё, прыцягнуўшы да гэтай справы адміністрацыйныя органы.

Для нашай паляўнічай каапэрацыі набывае вялікае значэньне і такая дырэктыва Экана:

— прапанаваць Народнаму камісарыяту асьветы ўключыць у праграму школ, асабліва сельскіх, веды аб задачах паляўнічае гаспадаркі і аховы прыроды, а таксама ўключыць у вучэбныя пляны Лесфаку сельска-гаспадарчай акадэміі і Полацкага лясного тэхнікуму курс па паляўнічай гаспадарцы.

І сапраўды да гэтага часу ўстановы Наркамасьветы ня цікавілася гэтым пытаньнем, а між тым для паляўнічае каапэрацыі, для паляўнічае гаспадаркі, уключэньне ў праграмы навучальных устаноў выкладаньне ведаў па паляўнічай гаспадарцы, набывае вельмі вялікае значэньне і, асабліва, у такой навучальнай установе, як сельска-гаспадарчая акадэмія. Паляўнічыя калектывы і таварыствы павінны дапамагчы ў гэтай рабоце ўстановам Наркамасьветы і сачыць за правядзеньнем гэтай дырэктывы ў жыцьцё. Трэба дабіцца правядзеньня гэтага мерапрыемства ў жыцьцё ў 1929—30 навучальным годзе.

Пастанова Ўраду, як відаць, адчыняе новыя пэрспэктывы ў разьвіцьці паляўнічае каапэрацыі.

Урадам на нашую сыстэму ўскладзены вялікія і адказныя задачы. Рашэньні гэтыя павінны спыніць усякую бесгаспадарчасьць, усякую бясплянавасьць і неарганізаванасьць, якая мела і яшчэ мае месца ў нашае сыстэме.

Мы павінны зараз з усёй сур'ёзнасьцю, з усёй энэргіяй і адданасьцю ўзяцца за ажыцьцяўленьне стаячых перад намі задач.

Возьмемся за шчырую працу!



Дэлегаты VIII Усебеларускага сходу паляўнічае каапэрацыі.

Цэлеш.

## Дзічы прыбавілася.

*(Менскі раён).*

Калі абмяркоўвалася пытаньне аб запрэце вясеньняга паляваньня, некаторыя аматары цягі слонак ды такаваньня цецярукоў расьпіналіся аб тым, што з запрэту мала будзе карысьці. Наколькі яны памыляліся, аб гэтым сьведчыць прырост дзічы ў гэтым годзе. Ня гледзячы на тое, што зіма 1929 г., а таксама і вясна былі вельмі няспрыяючыя, дзічы стала куды больш, чым у мінулым годзе. Возьмем, напрыклад, качак. Нават у такіх мясцох, дзе качка ня толькі не гнездавалася ўжо некалькі год, а нават баялася сесьці тут, у гэтым годзе там ужо былі вывадкі.

Амаль што ў самым горадзе Менску паміж Пярэспай і саўгасам Людамант працякае рака Сьвіслач. Бераг, які прымыкае да Пярэспы, улетку штодзень кішыць людзьмі, прыяжджаючымі з усяго горада паплёхацца хоць у мутнай вадзе Сьвіслачы. Другі бераг прымыкае да агароду саўгаса Людамант і там ужо ня купаюцца. На гэтым беразе ёсьць маленькая калдобінка, заросшая асакой і тут знайшла сабе прыпынак пара чыронкаў і пабудавала гняздо.

Будучы на купаньні, я сядзеў на беразе Сьвіслачы. Шум і гам купальшчыкаў насіўся над ракой. З травы паднялася пара чыронкаў, палётала над галовамі людзей і зноў апусьцілася на калдобіну. Я пашоў праверыць, чаго яны тут круцяцца, у той час, калі качкі ў гэтых мясцох, як я ўжо казаў, не пападаліся некалькі год. Уступіўшы ў траву падняўся самец і ўляцеў. Я дагадаўся, што самка на яйках і вышаў з калдобіны, каб ня пужаць яе.

Каб прасачыць, ці ўдасца тут вывесьціся качкам, я некалькі тыдняў наведваў гэту калдобінку. Качкі расьлі, але з гэтага часу цяжка было заўважыць старых: яны сталі больш асьцярожны, а потым праз ноч зьніклі разам з малымі: кудысь сплылі па рацэ.

Гэты маленькі факт гаворыць за тое, што забарона вясеньняга паляваньня—ня пустая справа і дзіч з кожным разам памнажаецца.



Зьнішчацелі драпежнікаў.—Бацька і сын т. т. Лясіца з вывадкам ваўчат (Рэчыцкі раён).

Цяпер возьмем паляўнічыя ўгодзьдзі і водгукі паляўнічых аб прыросьце дзічы. Хто-б дзе ня быў, усе гавораць, што дзічы шмат. На балоце, што цягнецца ад Сёмкава-Гарадка да Заслаўя было качак столькі многа, колькі ня было іх ужо некалькі год. Ды і ўсюды, гавораць паляўнічыя, дзічы шмат прыбавілася.

Але лепш за ўсё адбілася забарона вясеньняга паляваньня на цецярукох. Недарма, якога паляўнічага не запытаешся, дык ён адказвае:—„А ну іх, качак гэтых, лепш на цецярукоў паеду“. Цецярукоў у гэтым годзе вельмі шмат, усюды, дзе яны толькі могуць быць.

Вельмі шмат і белых курапатак (пардва). Але яны сустракаюцца ня ўсюды, бо ў некаторых мясцох яны ўжо зьнішчаны былі зусім. Будзем спадзявацца, што пры такіх умовах яны зноў распаўсюдзяцца.

Ітак, увядзеньне ў жыцьцё закону аб забароне вясеньняга паляваньня дало станоўчыя вынікі. Але кепска тое, што яшче ня ўсе зразумелі гэта і ніяк ня могуць стрымаць свой пал, каб ня страляць па качцы або хоць палкай не пабіць маладых качак да тэрміну паляваньня. Карэспандэнцыі з месц паведамляюць аб гэтых ганебных выпадках.

І робяць гэта ня толькі браканьеры, але некаторыя і высокапастаўленыя асобы—паляўнічыя з Менску. „Прыехаў,—кажа селянін,—на дачу ў Шацк адзін з Менску і адчыніў паляваньне на качак да тэрміну“. Ды і пішучаму гэтыя радкі вядомы выпадак, што таварыш з „высокапастаўленых“ не перарэгістраваўся да 1-га жніўня, а на качак, я думаю, не ўцярпеў, каб не паехаць.

У такіх выпадках арганізаваныя ячэйкі паляўнічых на мясцох павінны працаваць і прыцягваць да адказнасьці такіх зайдросных паляўнічых. Ды і самі паляўнічыя павінны кантраляваць адзін другога. Калі мы зьнішчым усе гэтыя недахопы, дык дзічы прыбавіцца яшчэ больш.

## Прожорливость ястребов.

Лесничий Плещеницкого лесничества по заказу Белорусского государственного музея поймал 5 штук ястребов-тетеревятников и еще в пуху 5 ястребов-перепелятников.

Ястреба-тетеревятники были посажены в особую корзинку, сплетенную с лучины, а перепелятники на некоторое время оставлены так около корзинки. Лесничий кормил ястребов воробьями, воронами и другой живностью. Когда он, однажды, бросив их одних вернулся, то от четырех перепелятников остались только „рожки да ножки“: их с'ели тетеревятники, к которым они пролезли в корзинку через щель.

По рассказам лесничего для ястребов не набраться корму—очень прожорливы они. **Ц.**

Н. М.

# В ПОМОЩЬ ОХОТНИКУ.

## Охота по боровой птице.

### Тетерев.

#### Охота с легавой по линяющим косачам.

К АВГУСТУ—срок открытия охоты по тетеревам летом большинство косачей заканчивают линьку и уже вовсе не является той беспомощной, плохо владеющей крыльями птицей, которую они представляли собой в период линьки. В августе косачи кормятся, главным образом, в ягодниках, приблизительно там-же, где кормятся в то время и выводки, при чем едят косачи в эту пору чрезвычайно много, вследствие чего, постоянно перемещаясь в поисках корма, оставляют на земле прекрасный след. Кормежка косачей происходит утром (с восхода до 9-10 час. утра) и вечером (с 4-5 час. дня—до захода). А в полдневную жару, а также и на-ночь, косачи забиваются в крепкие места и сидят там совершенно неподвижно, вовсе не давая следа.

Линяющий косач прекрасно выдерживает стойку и под собакой всегда бежит, стараясь взлететь только при крайней необходимости и всегда в чаще или искусно прикрываясь деревьями. Позднее, когда ягода на открытых местах отойдет, косач вновь перебирается в более крепкие места, где много брусники, и становится очень строгим, не допуская к себе близко ни собаки, ни охотника.

Для охоты за косачами требуется чутьистая, вежливая и опытная собака, не любящая ковыряться в следах, а напротив, главным образом работающая верхом. Собаки же чересчур осторожные, робкие и ненадеющиеся на свое чутье, будут всегда давать возможность косачу отбежать в чащу и взлететь там, даже не показавшись на глаза охотнику.

Охотник на этой охоте, в особенности в позднюю осень, также должен быть опытным и достаточно расторопным. Определив по поведению собаки, что она ведет именно к косачу, а не к выводку, необходимо быстро опереживать собаку на стойке и самому поднимать на крыло лирохвостого, не давая ему возможности отбежать в кусты.

Охота с легавой по косачам продолжается до начала образования тетеревиных стай, а случайная—и много позднее, даже в октябре.

#### Охота по выводкам с легавой.

Тетеревинные выводки с августа и вплоть до своего распада держатся исключительно в ягодниках, преимущественно около покосов, по старым гарям, молодым вырубкам и т. д. При этом скорее всего найдешь выводок в таких ягодниках, которые расположены невдалеке от того места, где было гнездо тетеры и где выводок провел первые дни своей жизни и которые сравнительно мало тревожатся людьми, скотом и собаками и пр. После того, как ягода на открытых местах пропадет, выводок сдается в лес, где ягода, как известно поспевает несколько позднее, чем на открытых местах. Позднее выводки опять перебираются на опушки поближе к брусничникам или овсяным, гречишным и проч. полям.

Утром и вечером (в те же часы, что и косачи)—выводок на кормежке в ягодниках и здесь его и нужно искать, так как днем, забираясь в крепкие места, он лежит, собравшись в кучу, совершенно неподвижно и не дает никакого следа. Разыскать его в крепи вследствие этого очень нелегко, да и стрелять в чаще весьма затруднительно. В пасмурную же погоду выводок проводит на открытых местах ягодников весь день от зари до зари.

Начинать охоту по выводкам следует тогда, когда роса уже немного пообсохнет, т. к. тетеревята не любят сырости, да и собаке по росе работать гораздо труднее. Вообще следует иметь в виду, что в росу (утреннюю и вечернюю) выводки держатся всегда на более высоких, с частым лесом, местах, а в дождик на более открытых,—в крепком лесу и на опушках.

В тех местах, где предполагаются выводки, нужно ходить краем опушек, вдоль частого леса, а собаку направлять в более открытые места, т.-е. туда, где ожидаются выводки. Этим достигается то, что выводок, заметивший собаку, не сможет убежать в чащу и следовательно вынужден будет взлетать на более открытых местах, где стрельба конечно легче, чем в крепи. По мере возможности также следует направлять поиски собаки так, чтобы она работала против ветра или в полветра, а не по ветру.

Как только собака прихватила выводок, следует ее сдерживать, давая выводку время разбежаться во все стороны. Благодаря этому приему выводок взлетит не весь сразу, а постепенно, что, конечно, увеличит успех охоты. Всего же лучше для этого, дав собаке отметить стойкой выводок, отозвать ее и, отойдя шагов 50 назад, минут 15—20 посидеть. За это время тетеревята разбегутся во все стороны и затаятся по одиночке. Пущенная затем в поиск собака будет находить тетеревят и подавать их под выстрел по одиночке, а не всех сразу, выводком, сделать по которому даже в лучшем случае больше двух выстрелов вряд ли удастся.

Поднятый с земли выводок разлетается во все стороны и чем взрослее тетеревята, тем дальше они отлетают. Обычно разлетевшийся выводок размещается частью на деревьях, а частью прямо с полета, не давая следу, сунется в какой либо куст, под дерево и т. д. и сидит в таких местах минут 15—20 совершенно неподвижно. Разыскивать таких тетеревят сразу же не следует, так как это даже очень чутьистой и опытной собаке (не говоря уже о севших на деревья тетеревятах) будет очень нелегко. Надо и в этом случае вооружиться терпением и отозвав собаку несколько обождать. Успокоившись, тетеревята начнут перекликаться между собой и со старкой; севшие на деревья спустятся на землю, а сидящие на земле выберутся из своих убежищ и дадут след. Тогда то и нужно отправляться за ними, пустив в поиск собаку. Впрочем, нужно иметь в виду, что если охотник засидится таким образом чрезмерно долго, то он рискует или вовсе не найти выводка или опять найдет его всего в куче, так как выводок уже успеет собраться около старки, иногда даже на том же самом месте, где он был поднят с земли.

Осенняя охота по выводкам заканчивается с взматерением молодых и образованием тетеревинных стай, что в большинстве местностей происходит в октябре.

### Белая куропатка.

#### Охота с легавой.

К августу выводки белых куропаток держатся чаще всего в больших болотах, поросших красным мхом, в горах хвойного леса и в болотах, поросших молодым кустарником, при чем всегда таких, которые богаты ягодами: сперва голубицей и морошкой, а затем черникой, брусникой и, наконец, клюквой. В некоторых местностях в конце сезона охоты куропатки держатся около жнив и озимей, куда и вылетают с болот кормиться.

Выводки белых куропаток очень смирны и только на совершенно чистых местах иногда не подпускают к себе на выстрел охотника. Одиночная жа куропатка почти всегда выдерживает стойку очень хорошо и вылетает из-под самой морды собаки в каких либо десяти шагах от охотника. Старики (и самка и самец) держатся с выводком, при чем самец не только всегда с криком вылетает первым (когда выводок еще не вполне созрел), но и самоотверженно старается увести от своего семейства и собаку и охотника.

Белые куропатки в выводке обычно долго бегут под собакой, а затем взлетают все сразу, точно по команде, хотя обычно все же первым взлетает куропат-петух.

Найдя выводок охотник должен прежде всего постараться его разбить, что даст ему возможность впоследствии собрать из-под собаки куропатку за куропаткой, рассевшихся невдалеке. В противном случае выводок перемещается на сравнительно большие расстояния, становится более строгим да и сделать по нему удастся не более 1-2 выстрелов. Это достигается выстрелом по взлетевшему выводку, хотя бы и на очень большом расстоянии, чтобы свистом дроби напугать куропаток и заставить их разлететься по одиночке.

Охота на белых куропаток из под легавой продолжается всю осень до снега, но, конечно, в тех местностях, где куропатка не очень настегана и где она и держится не только на одних открытых и совершенно чистых болотах.

### Рябчик.

#### Охота с собаками и с подхода в узерку.

Ходить за рябчиками с легавой и бить их на лету из под стойки возможно только летом, в августе, когда выводки еще сравнительно молоды и держатся главным образом по опушкам леса, в прогалинах, вырубках и вообще ягодниках. В эту

пору, ранним утром выводок довольно широко разбегается на жировке и отдельные рябчики относительно сносно выдерживают подводку и стойку легавой. Подняв весь выводок с земли следует тотчас же отправляться на поиски нового или же итти разыскивать рассевшихся по деревьям рябчиков, так как надежды на то, что взлетевшие с земли и рассевшиеся по деревьям рябчики снова спустятся на землю в скором времени—питать не приходится вовсе.

В остальное же время дня, а также и в более позднюю пору года роль собаки на охотет по рябчикам значительно скромнее и стойки от нее вовсе не требуется. Собака должна только разыскивать и поднять выводок с земли, остальное же—дело опытности и зоркости охотника. Отысканый выводок с шумом поднимается с земли и тут же садится на деревья, б. ч. на нижние сучья. Если внимательно разглядеть, где сидят рябчики, то иногда удается застрелить, не сходя с места, несколько штук именно, когда охотник начнет с нижних и крайних. Непуганные рябчыки сидят смирно по сучьям или, вытягивая головку, стрекочут.

После нескольких выстрелов, рябчики однако снимаются и летят дальше. Этот перелет уже гораздо длиннее первого и садятся они по деревьям выше, да и прячутся лучше. Но так как рябчики летят всегда по прямому направлению, то отыскать их вторично при наличии некоторого опыта и хорошего зрения не так уж трудно. Таким оброзом, выводок перемещается в третий и четвертый раз, делая перелеты все длиннее и длиннее, рассаживаясь по деревьям все выше и выше и еще менее приметных местах. Если при этом для облегчения разыскивания рассевшихся по деревьям рябчиков применять еще и манку их пищиком, то иногда можно перебрать чуть ли не весь выводок полностью.

Указаным способом, разумеется, можно охотиться и вовсе без собаки, разыскивая выводок на земле и поднимая его на деревья, так сказать „самотоком".

Иногда для охоты по рябчикам пользуются и лайкой, специально натасканной по этой дичи. Найдя рябчика на дереве, лайка должна только коротко подать голос, оповещая этим хозяина, что дичь найдена и затем молча, не обращая внимания на рябчика, сидеть или лежать под деревом, ожидая приближения охотника.

### Охота на пищик.

Охота на пищик возможна с августа, но несомненно лучшая и интересная ее пора начинается с сентября, когда выводки уже разбиваются и рябчики главным образом держатся парами.

Молодой рябец, в полматки величиной, охотно идет на пищик, особенно, если выводок разлетелся во все стороны и не уведен маткой чрезмерно далеко. Молодых следует манить „на черк", т.-е. голосом молодого рябчика, ударяя в пищик раза 2—3 не более, с небольшими промежутками. Сплошь и рядом выводок идет на пищик в полном составе, обычно пешком, хотя присутствие осторожной матки часто мешает охоте.

В более позднюю пору, осенью, отправляясь на охоту за рябчиками на пищик следует брать с собой два пищика: на самку и самца. Голас самца несколько грубее голоса самки и его можно изобразить приблизительно так: „тии-тии-тиу-ти" или „ти-ти-ти-тиу", причем первые две ноты нескольку затягиваются, а последняя трель—отрывиста. Голос самки несколько слабее и нежнее, а сам писк короче и отрывистее его можно изобразить так: „ти-у и" при чем средняя нота „у" тянется несколько дольше. Так как пищики часто портятся, нелишнее прихватить с собой несколько запасных. Пищики изготавливаются или самим охотником (из кости, коры молодого побега ивы, металла, гусиното пера и проч.) или же покупаются готовыми. Наука хорошо манить рябчика, а также выбирать и настраивать пищик довольно трудна и требует от охотника большого терпения, старания и даже музыкального слуха.

Охота на пищик производится тогда, когда рабчики жируя, держатся по одиночке, а не парами, т.-е. от зари до 10—11 ч. дня и с 1 — 2 часов дня до сумерок. Днем же рябчик вовсе не идет на пищик, так как держится парами в крепях.

В дождь, а в особенности в сильный ветер, охота на пищик в большинстве случаев бывает неудачна. Лучшая же погода для этой охоты—ясные, тихие, слегка прохладные, а также и тихие, ясные с изморосью и туманом, дни.

Самая охота производится так. Охотник медленно и бесшумно идет по просеке, опушке, запущенной дороге и иным местам, где жирует рябчик, внимательно вслушиваясь не послышится ли где нибудь шума взлета. Как только рябчик поднялся, следует тотчас же выбрать удобное местечко за каким либо прикрытием, откуда можно было бы хорошо осматриваться кругом и стрелять и спокойно там усесться.

Прождав с минуту, надо подать пищиком голос самки. Пикать самкой следует потому, что самцов-рябчиков вообще больше и они несомненно охотнее идут на пищик, нежели рябушки. Если рябчик близко и не напуган охотником, он не замедлит отозваться. Если вместо ожидаемого самца послышится голос самочки, следует тот час же переменить пищик Однако, подать голос вторично следует не ранее, как через 3—4 минуты после того как раздался первый ответ, а затем снова замолчать на несколько минут. Обычно рябчик делает перелет сразу же после первого писка, но если это почему либо не произошло, не следует его торопить новой манкой в скором времени, так как это не поможет, а скорее повредит успеху. Вообще следует иметь в виду, что раззадорить рябчика и заставить его подлететь к охотнику можно только тем, что охотник будет поменьше отвечать на его ответы голосом и перелеты. Как только рябчик ответил первый раз, а в особенности, когда вслед за этим прогремел его перелет, следует сидеть совершенно без всякого шума, с ружьем наготове и внимательно осматриваться по сторонам, так как рябчик вероятнее всего не замедлит своим появлением на дереве или на земле вблизи охотника. В большинстве случаев больше 3—4 раз подавать голос не приходится.

Убив рябчика, следует подождать минут 5—6, сидя совершенно спокойно и не двигаясь а затем снова подать голос. Иногда можно с одного и того же места убить 3—4 рябчиков. Однако, если рябчики упорно не отвечают на пищик, то это значит что они или сильно напуганы или их вообще нет вблизи. Тогда следует идти дальше прежним манером вплоть до взлета нового рябчика.

Если рябчик откликается, но к охотнику не подлетает, то это означает, что или он сидит вместе с другим, или уже пуган и стрелян. В этом случае нужно осторожно переменить место и постараться поманить его с противоположной стороны Если же не поможет и это нужно разогнать пару и тогда уже приступить к манке.

В дождливую погоду или после дождя, но на деревьях везде еще висят капли воды рябчик держится исключительно в густых ельниках и перелеты делает весьма неохотно. Поэтому охотясь в такую пору, следует ожидать не прилета рябчика на манку, а его прихода пешком по земле.

Охота на рябчиков на пищик продолжается всю осень вплоть до самой зимы.

## Вальдшнеп.

### Охота с легавой.

К августу большинство вальдшнепиных выводков уже созревают окончательно. Обычно весь август, а иногда и до середины сентября и старые и молодые вальдшнепа держатся в местах гнездовья и линьки, т. е. в самых глухих тенистых и сырых участках леса. В эту пору чаще всего можно найти вальдшнепов в глухой чаще хвойного леса или в найболее укромных уголках старого чернолесья.

Охота в эту пору по вальдшнепам с легавой всегда относительно случайна и редко когда добычлива. Чаще всего тогда вальдшнепов из под легавой стреляют случайно, попутно с другой лесной дичью Настоящая же охота по вальдшнепам из под легавой начинается с середины—конца сентября, когда вальдшнепа переберутся уже на более открытые места и держатся преимущественно по лесным опушкам, в чаще осинника, около паровых полей и т. д. В сухую осень, вальдшнепа остаются в этих местах вплоть до отлета в сырую же осень—опять слетаются в лес.

Для охоты по вальдшнепам требуется опытная, чутьистая и, главное, вежливая собака. Хорошее знание мест охотником и уменье его в зависимости от времени осени и состояния погоды определить, где скорее всего можно найти вальдшнепов—также залог успешности работы. Помимо этого охотник должен быть и достаточно расторопным и опытным, чтобы всегда уметь занять при взлете вальдшнепа в чаще наиболее благоприятное для стрельбы место и положение. В противном же случае охотник рискует часто и вовсе не увидеть поднявшегося долгоносого.

Лучше всего охотиться по вальдшнепам одному. Лишь иногда, когда вальдшнепа держатся в кустарниках по оврагам и лощинам, удобнее ходить за ним вдвоем с одной собакой. В этом случае охотники идут по краям лощины или оврага, собака же ищет между ними в кустах и куда не вылети, при таких обстоятельствах, вальдшнеп, он всегда будет попадать под выстрел того или другого охотника.

Охота на вальдшнепов из-под легавой продолжается всю осень вплоть до окончательного исчезнования этих долгоносых при чем с начала пролета вальдшнепов на юг становится еще более интересной и добычливой.

сапраўдныя дакуманты падпісваліся выключна Ляўхманам і ня могуць быць прызнаны правідловымі.

Калі Гурын пашоў у водпуск, то ўсе справы перайшлі ў рукі яго намесьнікаў Баржэцкага ды Аксяновіча, якія пры садзейнічаньні Ляўхмана цягнулі сродкі з запаведніку.

Работа па пабудовах і рамонту будынкаў у запаведніку нікім з адміністрацыі ня прымалася, актаў не складалася, была зроблена з вялікімі недахопамі, а астача грошай па гэтай справе ў кнігі не запісвалася і ў наяўнасьці яе няма. Замест высылкі грошай рабочым, Ляўхман таксама іх клаў сабе ў кішэню, а на ведамасьці прымушаў каго-небудзь расьпісвацца за няпісьменнага або падробліваў росьпісі.

Корм лісіц у гадавальніку ня ўлічваўся. Кнігі для запісі жывога інвэнтара не вяліся. Было ў гадавальніку 9—10 лісіц, а цяпер чамусьці стала толькі чатыры старых. А дзе прыплод—невядома.

Намесьнік загадчыка Баржэцкі купіў двох самцоў лісаў, а колькі заплаціў, нікому не вядома. Сказаў запісаць на прыход з яго слоў, ды і годзе! А хіба няма ў запаведніку лісіц, каб іх ня купляць?

У запаведніку ёсьць казённы конь, а за які рахунак ён утрымліваецца, нічога невядома. Ды і конь не вядома чый, бо няма на яго опісу.

Зараз усіх тых злачынстваў, якія былі зроблены адміністрацыяй запаведніку, выявіць немагчыма. За гэта возьмецца пракуратура. Таксама не магчыма зрабіць падлік і страт ад гэтай злачыннай кучкі людзей.

У Беларускім дзяржаўным запаведніку трэба правесьці дакладнае расьсьледваньне і, як мага хутчэй, аздаравіць яго.

## Начальства палюе.

**Група паляўнічых.**

Нечага гаварыць аб тым, што Беларускі дзяржаўны запрэтнік па багацьцю фаўны зьяўляецца першым у СССР, таксама вядома ўсім і тое, што ў аднаўленьні паляўнічай гаспадаркі запрэтнік грае вялікую ролю.

Недарма-ж урад БССР пастанавіў адчыніць яго і даў дырэктывы Наркамзему аб ахове, які адпушчае вялікія сродкі, каб рэдкая дзіч запрэтніка ня толькі ня зьнішчалася, а разводзілася і распаўсюджвалася па ўсёй БССР.

Шмат працы ўкладзена ў запрэтнік і „Белкохотсоюзом“.

Але ўсе імкненьні як Ураду, так Наркамзему, „Белкохотсоюза“ і ўсёй паляўнічай масы зводзяцца на нішто адміністрацыяй запрэтніка, тымі людзьмі, якія і пастаўлены для аховы яго.

Факт першы. Летась 10 жніўня мы былі на сенажаці каля запрэтніка. Ва ўрочышчы Асінаўка, што за мяжой запрэтніка, пачуліся стрэлы. Мы ня верылі сваім вушам, што ў запрэтніку могуць страляць, але тады паверылі, калі, зацікавіўшыся, падыйшлі да берагу ракі Бярозы і ўбачылі трох паляўнічых. Двое з іх ішлі наводдаль на лугу, а трэці—егер запрэтніка *Юшкевіч Браніслаў* каля самай ракі па другому ад нас берагу Бярозы і палявалі на качак.

Мы запыталіся ў Юшкевіча, хто з ім ходзіць? Той адказаў, што сам загадчык запрэтніка *Гурын* і яго пісар—*Ляўхман*.

Ня было ніякага сумненьня, што загадчык запрэтніка Гурын з двума сваімі падхалімамі рашылі пасьцёбаць качак па Бярозе і мы запыталіся ў Юшкевіча, ці можна паляваць у запрэтніку? Апошні адказаў, што мусіць можна, калі палююць.

Другі факт. Праз некалькі дзён пасьля гэтага, калі мы кідалі стог, падыйшлі егеры запрэтніка *Вамэтка М.* з *Канашэвічам Н.*, на граніцы запрэтніку каля ракі Яльніцы выкапалі слуп з табліцай і паставілі ў тым месцы, адкуль пачалося паляваньне Гурына з сьвітай некалькі дзён таму назад.

На што было пераносіць слуп дагадацца ня цяжка. Загадчык запрэтніка пабаяўся агляскі і, каб захаваць сьляды свайго злачынства, ён дае загад аднесьці слуп далей углыб запрэтніка. Але Гурын і тут папаўся.

Тады за выгаражваньне з бяды начальства бярэцца памочнік Гурына *Баржэцкі* і піша афіцыйную паперку гуртку паляўнічых вёскі Лысіна, у якой стараецца ўпэўніць паляўнічых у тым, што Гурын не паляваў у запрэтніку, а страляў каршуноў, а аб пераносе слупа дыплёматычна ўмаўчаў.

Можна верыць, што ў запрэтніку адміністрацыя адстрэлівае каршуноў, але паляўнічая маса, якая жыве каля запрэтніку, ніяк не згаджаецца з гэтым: па-першае, таму, што звычайна адміністрацыя адстрэлівае каршуноў або 29 ліпеня або 1 жніўня і абавязкова ў тых мясцох, дзе бываюць не каршуны, а качкі, а, па-другое, таму, што каршуноў у запрэтніку ад такога адстрэлу прыбывае, а іншай дзічы зьмяншаецца.

Каб падцьвердзіць гэта прывядзем трэці факт.

28 ліпеня гэтага году на першы дзень паляваньня нашы паляўнічыя асазналі закон аб ахове запрэтніка і пайшлі паляваць за 5—10 верст ад запрэтніка, а да Гурына ў запрэтнік прыехалі госьці з „лясного начальства“ і палявалі на цецярукоў ды качак ва ўрочышчы Асінаўка ў запрэтніку.

Усё тут зьмешчанае гаворыць за тое, што ў запрэтніку засела кучка лясных чужых нам людзей, да якіх яшчэ не дакацілася чыстка. Яны там згрупаваліся, зьнюхаліся і твораць што хочуць, карыстаючыся тым, што зоркае вока савецкае грамадзкасьці доўга не магло ўбачыць праз гушчар лясоў іх твару.

## Валакіта з стральбой.

**Паўлюц.**

На 12 ліпеня былі назначаны акруговыя, а на 14—усебеларускія спаборніцтвы ў стральбе па талерачках. Але, як відаць, *праўленцы Менскага акругавага таварыства* не хацелі, каб на гэтых спаборніцтвах удзельнічалі паляўнічыя з раёнаў і не забралі прызы, а таму яны паведамілі раёны толькі 9 ліпеня.—Хопіць ім і 2 дзён падрыхтавацца да спаборніцтваў—гаварылі праўленцы. А аб усебеларускіх спаборніцтвах, дык і зусім не паведамілі.

Ітак, спаборніцтвы адбыліся, але без аднаго стрэлу вяскоўцаў, а называліся яны чамусьці „акруговымі“ ды „ўсебеларускімі“. Іх трэба было назваць „гарадзкімі“, а ў раёнах зрабіць свае спаборніцтвы.



# Жыцьцё на мясцох

Каржаноўскі.

## Праца разгарнулася.

(*Буда-Кашалёўскі раён*).

У раёне арганізавана сем сельячэек паляўнічых. За апошні час работы сельячэек ёсьць добрыя вынікі. Сельячэйкі вядуць культработу сярод паляўнічых і сялян; ставяць даклады аб ахове дзічы на сялянскіх агульных сходах; праводзяць аблавы на ваўкоў і бадзячых сабак; вядзецца самая актыўная і шчырая барацьба з браканьерствам, ад чаго павялічылася ўступленьне ў саюз паляўнічых сялян.

На браканьераў складаюцца пратаколы і перадаюцца ў суд для прыцягненьня да адказнасьці.

Работа сельячэек дарма не праходзіць і ўжо ў гэтым годзе ня было ніводнага стрэлу да пачатку паляваньня.

Але сельячэйкам трэба яшчэ больш разгарнуць работу з ціхім браканьерствам—з разбурэньнем гнезд птушак, зьбіраньнем яек, выкапваньнем ліслянят і г. д., хаця ў гэтым напрамку шмат што ўжо сельячэйкамі і зроблена.

Манькоўскі.

## Сход паляўнічых Магілеўшчыны.

Чэрвеньскі сход паляўнічых Магілеўскага раёну адбыўся разам з паляўнічымі горада. На сход зьявілася 50 проц. паляўнічых. Больш за ўсіх праявілі актыўнасьці паляўнічыя-чыгуначнікі, затым сяляне з раёну і менш—гарадзкія. Шмат хто з іх, дзякуючы добраму соўнечнаму надвор'ю парашылі правесьці гэты дзень на беразе Дняпра з вудачкай, чым удзельнічаць у вырашэньні агульных задач, якія зараз стаяць перад паляўнічай каапэрацыяй.

„Пашкадуем“ іх, вініць ня станем. Сапраўдны паляўнічы прыняў ўдзел у сходзе і вырашыў пытаньні, якія былі на павестцы дню, крытыкуючы недахопы і даўшы наказ на далей гаспадару паляваньня—акруговаму сходу паляўнічае каапэрацыі.

Характэрнымі былі выступленьні яшчэ ўцалеўшых 1—2 кулакоў, праліваўшых сьлёзы за 25 руб. пай.

Наогул, сход, калі паляўнічыя гораду і вёскі сышліся ня ў лесе, а ў клюбе за вырашэньнем агульных пытаньняў прайшоў дружна.

Усе паляўнічыя з месц паказвалі на вялікую шкоду, якая робіцца бадзячымі сабакамі ды браканьерамі. Слабай прызналі культасьветную работу сярод паляўнічых. Прывіталі пачынаньні арганізацыі паляўнічых сельячэек. Скардзіліся, што часопісь „Паляўнічы Беларусі“ кепска даходзіць да месц,—на кепскую пастаноўку справы ў акруговай бібліятэцы саюзу паляўнічых. Здорава крытыкавалі работу акруговага таварыства.

На сходзе выявілася, што ёсьць і такія паляўнічыя, якія падтрымліваюць браканьераў, задавальняючы іх порахам ды інш.

К. В.

## Лепшыя стралкі Віцебску.

21-га ліпеня адбыліся акруговыя стралковыя спаборніцтвы з дробавых стрэльбаў па талерачках, і з дробнакалібарных вінтовак куляй.

Спаборніцтвы з вінтовак прайшлі кепска, бо пачаліся дужа рана, калі сонца сьвяціла ў твар стралку. Першае месца па стральбе куляй заняў **Брын**, другое — **Паяркаў**, трэцяе — **Даніловіч**, чацьвертае— **Рыхто** і пятае—**Кошка**.

З дробавых стрэльбаў, ня гледзячы на кепскі стэнд, на першае месца вышлі новыя стралкі. Першае месца заняў **Будзько**, другое—**Кошка**, трэцяе— **Васільлеў** і чацьвертае—**Леванёнак**.

Сідарэнка.

## Ачышчаемся ад чужых.

Брагінскі райкалякты́ў, як і ўсякі іншы, да 1929 г. быў засоран чужым элемэнтам: кулакамі, пазбаўленымі выбарчых правоў, браканьерамі і інш. Калі пачалася чыстка паляўнічай каапэрацыі Беларусі калякты́ў прыняўся за чыстку і сваіх радоў. Зараз калякты́ў гэту работу скончыў. На дапамогу калякты́ву прыйшла і райміліцыя Усе стрэльбы ад выкінутых з калякты́ву адабраны і рэалізаваны ў раёне паміж паляўнічымі-беднякамі. Некалькі чалавек каапэравана за рахунак фонду каапэраваньня беднаты. Фонд поўнасьцю выкарыстан. На часопісь „Паляўнічы Беларусі“ паляўнічыя падпісаліся на 75—80 проц. Добра праходзіў і збор сродкаў на самалёт.





Кірмаш у м. Бешанковічы (Віцебск. акр.). На здымку кіоск Віцебскага акруговага т-ва на кірмашы.

## ПАЛЯЎНІЧЫЯ!

**Пішэце, як працуе ваша ячэйка, калякты́ў і таварыства.**




**В. Е-ов.**

## Значение рыбы, как пищевого продукта.

ВОЙНА до крайности истощила запасы животной пищи. Единственным источником подобного рода пищи, не пострадавшим (а местами даже усилившим свои рессурсы) от разрухи является животный мир моря, в частности его рыбное население. За границей, в особенности в Германии, которая после войны явилась наиболее пострадавшей во всех отношениях страной, было обращено самое серьезное внимание на развитие рыболовства. К настоящему времени эта страна почти заново создала огромный рыболовный флот, производящий лов рыбы от берегов Марокко до мыса Канина в Баренцовом море. Внутри страны была поднята целая кампания за усиление рыбнаго питания, давшая самые положительные результаты, так как норма потребления рыбы возрастает в Германии с каждым годом. Добыча рыбы по сравнению с довоенным периодом возрасла также и в других странах, как, например, во Франции, Норвегии, Дании, Японии.

У нас, еще до сих пор на эту отрасль народного хозяйства обращается очень мало внимания. Судя по данным, приведенным в речи т. Микояна на III пленуме ВКП(б) в Москве, в настоящее время у нас заготовляется 9,5 миллионов центнеров рыбы, в то время как довоенная заготовка была равна 11,5 мил. цнт. Таким образом, в этом отношении мы еще не перешагнули довоенных норм. И это при условии обладания огромной площадью водных бассейнов с богатейшими местами, почти еще совершенно не затронутыми, запасами рыбы! Впрочем, нужно заметить, что потребление рыбы у нас всегда было очень невелико по сравнению с другими странами*).

Так, например, в Соединенных Штатах Северной Америки норма потребления рыбы на душу населения в год равна в среднем 8 кг, а в городах доходит до 16 кг, во Франции 10 кг., в Швеции, Норвегии и Голландии около 16—19 кг и в Англии, где потребление рыбы исключительно велико, 27 кг. У нас, по последним подсчетам довоенные нормы потребления рыбы были таковы: городское население потребляло от 13,2 кг до 27,2 кг на душу в год; по 11 крупнейшим городам России средняя норма составляла 18,1 кг. После революции норма для тех же городов только 13,4 кг, т. е. 73% довоенной. Потребление рыбы в сельских местностях представляется в следующем виде: по Центрально-Промышленной области до войны 5,5 кг. на душу в год, теперь 3,5 кг, т.-е. 63%; по Центрально-Черноземной области 4,52 кг (теперь 2,83 кг, 64%); по Приволжским губерниям 5,8 кд. (теперь 3,7 кг, 63%); по Украине 6,3 кг (теперь 4,05 кг); очень низкие нормы в Закавказской республике—0,09 кг и в Туркменской—0,15 кг. Из приведенных цыфр мы видим, что в настоящее время потребление у нас рыбы составляет всего около 65% довоенного. Таким образом, перед нами стоит огромная задача не только довести норму потребления рыбы до довоенной, но и усилить рыбное питание в стране. Госплан СССР исчисляет норму потребления рыбы в 1930/31 г. в 12 кг на душу населения, при потреблении мяса в 56 кг. Однако, по мнению специалистов, является необходимым и вполне возможным увеличить значение рыбной пищи в питании нашего рабочего и крестьянина за счет уменьшения нормы мяса.

Что же представляет собой рыба, как пищевой продукт? Как известно, веществами без которых немыслима жизнь организмов и которые одновременно служат пищевыми веществами, необходимыми для роста и энергии, являются: вода, минеральные вещества, углеводы, жиры и белки. Три последних, т.-е. углеводы, белки и жиры, являются важнейшим фактором питания. Источником углеводов для человека является растительная пища, а источником жиров и белков преимущественно мясо животных, как наземных, так и водных. Среди широких масс населения существует совершенно ни на чем не основанное предубеждение против рыбы. Так, например, говорят, что рыба менее питательна, чем мясо млекопитающих, что она менее легко переваривается, чем мясо и т. д. Все это совершенно неверно. По содержанию в мясе рыб различных элементов питания она, как увидим ниже, совершенно равноценна мясу скота и птицы. Мясное блюдо вызывает чувство большего насыщения, чем рыбное не потому, что рыба менее питательна, а потому, что в первом случае затрачивается больше усилий при жевании, чем во втором. По усвояемости белков рыба стоит наравне с яйцами и лишь немного уступает говядине.

Самой главной составной частью нашей пищи являются белки. Если жировое и углеводное питание как-бы дает силу организму, т.-е. служит источником энергии, то белки помимо той же роли, какую играют первые, являются также и строительным материалом для тканей, из которых состоит организм человека. Следовательно, без достаточного количества белков в пище не может просходить нормального роста организма. Различные рыбы, а также и другие морские животные, по количеству белков нисколько не уступают мясу наземных животных. Содержание **белков** в процентах в различной пище представлено в следующей таблице: говядина от 17,2 до 20,0, баранина от 14,7 до 18,3, камбала 13,8, треска 15,8, скумбрия 18,1, лосось 21,6, белуга 16,28, севрюга 18,35, осетр 15,78, сельдь от 17,8 до 18,9, вобла 18,58, карп 17,40, лещ 18,24, судак 19,26, окунь 18,39, щука 19,43.

Из таблицы видно, что наиболее распростаненные рыбы, как судак, карп, щука и др., а также сельди содержат почти такое же количество белков, как и говядина. Но если принять во внимание, что рыба дешевле мяса, то становится вполне понятным, каково значение рыбной пищи в питании наименее обеспеченных в материальном отношении слоев населения. Но питательная ценность пищевых продуктов определяется не только общим содержанием белков, а также и их составом. Состав белков очень сложен. Они образуются из множества сравнительно простых веществ, называемых амино-кислотами, соединенными в белке в различных пропорциях. Как выяснено, главным образом, американскими исследователями, белки рыб являются совершенными, т. е. содержащими все те амино-кислоты, которые необходимы для роста и поддержания человеческого организма. Им недостает только одной амино-кислоты, а именно глицина, но, как доказано, присутствие его в пище не является существенным. Некоторые амино-кислоты, имеющиеся в белках рыбьего мяса отсутствуют в растительных белках. Отсюда следует, что рыба может являться главным блюдом обеда, состоящего преимущество из овощей, с уверенностью, что рыбьи белки вполне дополнят растительные белки.

Что касается жиров, то содержание последних в мясе рыб довольно значительно, как это видно из следующей таблицы:

Жиров в говядине от 9,0 до 27,1%, жиров в баранине от 19.0 до 38,7%, жиров в камбале 0,7%, жиров в треске 0,4%, жиров в скумбрие от 2.2 до 16,3%, жиров в лососине 13,2%, жиров в осетре 10,3%, жиров в севрюге 10,9%, жиров в сельдях от 3,0 до 16,1%, жиров в карпе 3,6%, жиров в леще 4,0%.

Рыбий жир в чистом виде является источником так называемых витаминов*), отсутствие которых в пище вызывает рас-

---

*) Несмотря на то, что рыба потреблялась русским населением в сравнительно небольшом количестве, все же до войны в Россию ввозилось значительное количество сельдей и трески из за границы.

*) Витаминам и их содержанию в рыбе предполагается посвятить особый очерк в ближайших номерах нашего журнала.

стройство важнейших функций организма. Всем известно значение трескового печеночного жира, называемого медицинским. За последнее время во многих странах развилось производство в больших размерах жира из различных рыб. Так, в Норвегии, Соед. Штатах и Японии жир вытапливается из сельдей; на жиротопление идут также сардины и лосось. Пока эти жиры идут исключительно для нужд различных производств, но нет сомнения, что недалеко то время, когда путем соответствующей обработки добьются того, что рыбьи жиры будут употребляться в пищу наравне с другими животными жирами и растительными маслами.

Помимо углеводов, белков и жиров человеческий организм нуждается в целом ряде минеральных веществ, находящихся в пище, отсутствие которых в последней вызывает тяжелые расстройства. Абсолютно необходимыми для нормальной жизни элементами являются: кислород, водород, азот, углерод, фосфор, сера, хлор, фтор, иод, железо, кальций, магний, натрий, калий. Все они встречаются в мясе морских рыб. Таким образом, рыбное питание гарантирует человеческий организм от недостатка минеральных веществ. Интересно отметить, что мясо морских рыб и других животных содержит большое количество иода. Последний же необходим для нормального функционирования щитовидной железы. Недостаток иода в организме вызывает такие заболевания, как зоб, кретинеум и т. п. В качестве средства против заболевания подобного рода болезнями теперь рекомендуется питание морской рыбой.

В предыдущих строках мы постарались показать, что рыбное питание может вполне заменить, если не целиком, то частично питание мясом наземных животных. В настоящие время, когда мы переживаем затруднения в деле снабжения страны пищевыми продуктами вполне естественно, что партия и правительство обратили серьезное внимание на возможность интенсивного использования наших рыбных запасов. В цифры пятилетки внесены большие суммы, которые будут вложены в рыбное дело.

Таким образом, на рыбацкое население возлагается ответственная задача помочь нашей стране выйти из полосы временных затруднений на продовольственном фронте. Однако, это вовсе не значит, что мы должны подорвать наши рыбные ресурсы неразумной их экплоатацией. Именно поэтому на ряду с крупными вложениями в рыбное дело, правительство отпускает большие суммы и на усиленне научной деятельности в области рыбного хозяйства.

**Участник.**

## Состязания на лучшего рыболова.

*(Москва).*

Одно из интереснейших явлений последнего времени в мире рыболовов это, несомненно, только что проведенное Московским кооперативным товариществом „Охотник и Рыболов", состязание на лучшего рыболова.

Происходило состязание на одном из лучших водных бассейнов Москвы—на озере Сенежа, славящемся, главным образом, своими размерами. Площадь водного пространства озера в довоенное время равнялася 793 гект., теперь оно несколько меньше.

Несмотря на чрезвычайно скверную погоду и бурное озеро, состязание не только не было отменено, но прошло с таким единодушием, что в результате было буквально общее пожелание—устраивать его почаще.

Вот вкратце картина соревнований, происходивших 30 июня сего года:

Начавшийся после обеда дождик к вечеру превратился в настоящий ливень. Участников, с'ехавшихся по данным полностью (31 ч.), это обстоятельство, однако, нисколько не смутило—рыболов к дождю привык. Ночь прошла почти без сна, в особенности в судейской коллегии. Старт был назначен в два часа утра. С половины второго началась раздача живцов, которая, а равно как и от'езд, происходили по жребию. Ровно в два часа, лодки, украшенные красными флажками, одна за другой—как раки по земле—быстро расползлись в разные стороны. Дождь перестал, поднялся сильный ветер и вот это обстоятельство было действительно не по нутру рыболову. На озере почти „барашки". Кружки разносит во все стороны. Лодки, стоящие на одном месте (удильщики), треплет, как бабью юбку на изгороди. На хорошие результаты надежд мало и их не было. Некоторые участники, поняв это, вернулись к финишу задолго до конца. Финиш был назначен в 12 час. дня, а прибывать начали с 8 час. утра. Но большинство использовало время все-ж почти полностью и это было большим достижением. Поработать за веслами до 10 час. подряд—задача не для всех посильная. Рыболов показал себя большим физкультурником, туристом, почти моряком и это так и должно было быть.

Все участники были разделены на три группы: две ловили на кружки, парно и в одиночку и, наконец, третьи ловили на удочку. Улов был с большой точностью взвешен и записан. Не обошлось конечно и без недоразумений. Так, например, у одного из участников по прибытии к финишу, оказалось на два кружка более того, чем следовало, но он об'яснил это недосмотром и что леска на них сухая, а это значит, что он на них не ловил. Другой товарищ ловил и на червяка, а надо было только на живца.

Вообще эти случаи единичны. Улов не превысил семь кило и для Сенежа, конечно, маловат, но для начала хорошо и это. Нужно заметить, что состязание было проведено вообще с опозданием, так как клев был уже на исходе.

Раздача призов, состоящих из рыболовных принадлежностей, дружные аплодисменты закончили это оригинальное и интересное для всех дело.

На другой день стояла чудная погода и уловы окуней, главным образом (щука уже кончала „брать") во много раз превышали уловы предыдущего дня.

Заканчивая эти строки, хотелось-бы выразить надежду, что примеру москвичей последуют и другие рыболовные организации нашего необ'ятного Союза и может быть в недалеком будущем в Москве или где либо соберутся не рыболовы подряд, а лучшие из лучших.






Б. Кришафович.

# Какая собака нужна охотнику-полупромышленнику Белоруссии.

У НАС, к сожалению, в Белоруссии, нет собак, пригодных для рядового охотника-полупромышленника.

Об'ясняется это тем, что в дореволюционное время охота была достоянием привилегированной части населения, которая занималась ею, как спортом.

Охотников крестьян было очень мало и они, во всяком случае, никакой роли в деле собаководства не играли.

Самыми подходящими собаками для помещиков были гончие и легавые, городские-же охотники держали преимущественно легавых собак разных пород.

После революции собаководство в наших центрах попало исключительно к городскому охотнику. Началось „возрождение" пойнтеров и сеттеров, английских и ирландских (даже гордоны начали ирландизироваться) гончих, русских и англо-русских и борзых.

В общем собаководство приняло спортивный характер. В Белоруссии образовались секции кровного собаководства, направляемые в своей деятельности центрами, по спортивному уклону. Надо признаться, что на рядового охотника-полупромышленника и его нужды еще никто не обратил никакого внимания (в смысле обеспечения надлежащей собакой). Сейчас мы даем ему легавых трайлеров и выставочных гончих, с которыми он, понятно, только мучается. Чтобы приспособить трайлера к практической охоте, его, прежде всего, бьют смертным боем, а если это не помогает: кастрируют, путают, привязывают к шее колоду, отрубают заднюю ногу, морят голодом и т. д.

Гончие, правда, не подвергаются таким средневековым инквизиторским пыткам, которые выпадают на долю несчастных трайлеров—их просто сбывают, так как для практической охоты они негодны.

Современем, без сомнения, хороших гончих собак и нам удастся развести, но у рядового охотника хорошей гончей собаки никогда не будет. Она будет только у очень ограниченного круга гончатников-специалистов, большей частью крестьян, которые могут посвятить охоте с гончими много времени. Рядовой охотник: крестьянин, рабочий, служащий, безразлично, как правило, имеет отвратительную собаку, все равно гончая она или легавая.

Горячую легавую, если она даже и натаскана егерем, рядовой охотник испортит в два счета, так как справиться с нею ему не под силу.

Гончая у неспециалиста испортится также очень скоро: мало практики для собаки, желание поскорей убить зверя (охотник спешит занять лаз вместо того, чтобы направлять собаку) скоро скажутся на работе и на второй, много на третий год, гончая уже не работница, уже не гонит.



Английский пойнтер на выставке „Всекохотсоюза".

Для рядового охотника, имеющиеся у них легавые и гончие не годятся, но это вовсе не значит, что ему не нужна хорошая собака. Каждому охотнику она нужна, в этом вопросе не может быть двух мнений. И такие собаки имеются, но, к сожалению, не у нас.

**Континентальные легавые** (гладкошерстые и брудастые) отлично идут по лесной, водяной, полевой и болотной птице и по зайцу, так как имеют и верхнее и нижнее чутье. Приучать к гоньбе зайца, их, конечно, не следует. Зайца бьют с ними осенью из-под стойки, при охоте на куропаток, и подраненого они легко догоняют по следу и приносят охотнику, так как являются природными аппортерами как с суши, так и из воды.

На охоте они не так горячи, как англичане и потому вести их не представляет большого труда, даже малоопытному охотнику. Чутье у них гораздо вернее, чем у англичан и дичи они не просадят, легко подбираясь к самой сторожкой. В поле и на болоте идут широко и достаточно быстро (галопом и рысью), а в лесу короче—всегда на глазах. Привязчивы, послушны, умны, недоверчивы к чужим, отличные сторожа и телохранители. Словом, континентальные легавые обладают всеми свойствами, необходимыми для охоты, являются лучшими для рядового охотника.

За границей, где для практической охоты пойнтера и сеттера давно уже не употребляются, континентальные породы имеют громадное распространение среди охотников-практиков, которых там гораздо больше, чем у нас.

**Лайки**—наша гордость. Без них не было бы промышленника севера, не было бы настоящих охотников. Разве можно сравнять лайку с гончей?! В наших белорусских условиях охоты, лайка незаменима для рядового охотника-полупромышленника. С лайкой можно охотиться за всяким зверем и за всякой птицей: выдрой, рысью, куницей, хорьком, горностаем, норкой, белкой, глухарем, тетеревом, рябчиком, куропаткой и уткой. Идет она и за зайцем не хуже, чем большинство наших гончих собак, т. е. всех тех, которые находятся у рядовых охотников, неспециалистов-гончатников.



Впрочем, рядовой охотник бьет зайцев почти исключительно зимой, по-пороше, самотропом, а если и охотится с гончей, то бьет с подрыва, так как его собака редко выдержит целый круг.

Остается лисица, которую с лайкой взять трудно, но ведь рядовой охотник со своей гончей лисице не страшен и она делается его трофеем только случайно.

На лисиц и волков лучше всего, и надежнее, охотиться с флажками, что теперь и делается.

**Фокстерьер** жестокошерстый во всех отношениях лучше таксы, так как гораздо сильнее и необыкновенно легок на ходу. Это лучшая собака для работы в норе по лисице и барсуку (таксу барсук загрызает). Кроме того фокс способен гонять лису и зайца, если его к этому приучить.

Идет и по мелкому зверю: хорьку, норке, горностаю. Он гораздо послушнее таксы и содержание его в доме, где он чуткий сторож, почти ничего не стоит.

Таким образом, для рядовых охотников-полупромышленников Белоруссии, таковых не менее 75 проц. общего числа всех охотников, самыми подходящими собаками являются: континетальные легавые (гладко шерстые и гриффоны); лайки, северные наши собаки разных пород (корельские, вогульские, зырянские, тунгусские, остятские и другие) и жестокошерстые фокстерьеры, на разведение которых и следовало-бы обратить внимание.

---

**Тарас Палясоўшчык.**

## Па паляўнічых сьцежках.

*(Дарожныя нататкі Тараса Палясоўшчыка)*

*(Працяг).*

— Аш-ш-ш-а-леў ты, чалавеча ці што-о? Ого-го, гэта тут боты купляць. Гляньце на мае боты. Месяц нашу іх. І вам стане ўсё зразумелым.

Я гляджу на падарожныя боты паляўнічага і думаю:—грошай у мяне малавата, а ў Менск невядома калі траплю. На дварэ пагода стаіць цёплая—пайду у гэтых. Раскідаюцца саўсім, босы пайду. Лягчэй і лепей. Аднак думаю цяпер з Гомеля на Мазыршчыну накіравацца. Там босаму можа і лепей будзе па балотах хадзіць.



*Часопіс выходзіць пад рэдакцыяй:* **М. Ф. Шмідта, У. С. Данькова і Г. Я. Хлеўнікава.**

*Адказны рэдактар:* **Міх. Шмідт.**

# АДКАЖАМ НА БАНДЫЦКІ НАЛЁТ ЧАН-КАЙ-ШЫ ЗБОРАМ СРОДКАЎ НА ПАБУДОВУ САМАЛЁТУ „ПАЛЯЎНІЧЫ БЕЛАРУСІ“

## УНОСЯЦЬ І ВЫКЛІКАЮЦЬ

**БРАГІНСКІ КАЛЯКТЫЎ:**

**Шылец І. Г., Ігнаценка М. А., Крысенка В. А., Купрэнка К. Н., Гапоненка А. І., Бабко М. М., Процко М. К., Парэмскі С. М., Мартыненка М. П., Цыбульскі С. І., Ціхончук Г. Е, Катлярэнка С. С., Пахолка А. А. і Крот М. І.**

**БУДА-КАШАЛЁЎСКІ КАЛЯКТЫЎ:**

**Вусаў Н., Вусаў К., Фомінчукоў А., Радзькоў І., Грузенкоў Р., Гурчэнкаў Х., Якаўлеў І., Зобаў А., Пракопчэнкаў М., Сяргельчыкаў А., Казлоўскі П., Гарэлікаў Х., Пукінскі А., Гаўрыленкаў Н., Романенка Ф., Лапікоў С., Мячыкаў Н., Федарцоў А., Дзюндзеенкаў М., і Парфенаў П.**

**Усяго сабрана на 10 жніўня 12504 руб. 41 кап.**

## СРОДКІ НА САМАЛЁТ „П. Б.“ ПАВІННЫ БЫЦЬ САБРАНЫ НЕ ПАЗЬНЕЙ 1-га КАСТРЫЧНІКА!

---

## Адусюль аба ўсім.

**Рэдкая дабыча**. Месяц таму назад адзін амэрыканскі аматар-рыбалоў вывудзіў вялізарную акулу ў $3^3/_4$ мэтра даўжынёй і больш 500 кілёграм вагой.

Наогул акулы дасягаюць 6—7 і нават $7^1/_2$ мэтраў даўжыні, але такіх пакуль што, яшчэ злавіць нікому не ўдавалася і злоўленая амэрыканскім аматарам акула можа лічыцца найвялікшай дабычай.

Цікава адзначыць, што барацьба з акулай працягнулася 3 гадзіны пакуль яе ўсьцягнулі на палубу.

**Непатрэбнае спаборніцтва**. Амэрыканскія аматары-рыбаловы звар'яцелі на спаборніцтвах лоўлі рыбы, яны лавілі рыбу з аркестрам, адзін міліянэр вудзіў нават і з дырыжабля.

Усе гэтыя дурасьці перасягнуты ўчыненым Оклэндскім спартыўна-рыбалоўным спаборніцтвам. Яно заключалася ў тым, хто далей за ўсіх правудзе рыбу. 147 аматараў ўселіся па бартох асобнага судна і пачалі вудзіць рыбу.

Пасьля першых сутак вужэньня $^3/_4$ удзельнікаў спаборніцтва вышлі з строя ды хто і астаўся трымаўся ня доўга. Некатарыя засыпалі на месцы і нават падалі ў ваду. (Двое чуць не патапіліся). Больш за ўсіх трымаўся нейкі Джон Альфонс; ён правудзіў 38 гадзін і 47 мінут падрад.

**Каштоўнасьці ў жываце трэскі**. Адзін з амэрыканскіх рыбакоў злавіў трэску, у жываце якой ім быў знойдзен брасьлет з 12 брыльянтамі.

**Прыкладны паступак**. 5-га мая недалёка ад хутара Маладзецкага, Валкійскага раёну (Украіна) паляўнічы Зьміцер Белакудра з аднасельчанамі пры аглядзе стану азіміны, праходзячы каля глінішча убачыў ў яме глінішча 4 зайцаў. Зайцоў выратавалі і прынесьлі да дому, з якіх адна была котная зайчыха. Калі зайчыха акацілася і зайчаняты падрасьлі паляўнічы Белакудра адпусьціў зайцоў на волю, загадаўшы ім не пападацца на мушку яго стрэльбы ў сэзон.

**Разьвядзеньне дамашніх зайцоў ў Францыі**. З тае прычыны, што заяц не разборчыў на яду, у сельскіх мясцовасьцях шмат разводзіцца зайцоў. Згодна вестак францускай часопісі „Ветеринария, медицина и зоотехника“ ва Францыі штогод ужывалася мяса на два мільярды франкаў ды апрацоўвалася заячых скурак на 720.000.000 франкаў.

**Джаспер-парк.** У скалістых гарах Канады значна расшырае сваю тэрыторыю вядомы ва ўсім сьвеце запрэтнік—Джаспер-парк. Новая тэрыторыя парка—4400 кв. міль больш за тэрыторыю Іелостонскага Нацыянальнага парку. З культурнымі цэнтрамі парк зносіцца праз чыгунку. Для зручнасьці наведваньня турыстаў праз парк праведзены аўтамабільныя дарогі і пабудованы добра абсталяваньня гасьцініцы. Дзякуючы таму, што на тэрыторыі парка зусім забаронена ўсякае паляваньне, турысты маюць магчымасьць назіраць за дзікай жывёлай у іх натуральных прыродных абставінах. У Джаспер-парку днём можна бачыць бабра за яго работай, фатаграфаваць дзікіх коз і аленяў, з рук карміць птушак. Ня толькі безабідныя капытныя дазваляюць набліжацца да іх, але і граза скалістых гор—мядзьведзь кожны вечар рэгулярна прыходзіць да дзьвярэй гасьцініцы прасіць падачку.

**Стральба з лука.** На жаль, у нас не практыкуецца стральба з лука, а гэта вельмі цікавы занятак. На Захадзе для палепшаньня стральбы з лука з вялікім посьпехам карыстаюцца залонамі пры стральбе з лукаў. Для гэтага на падстаўках устанаўляецца падрад некалькі бочак бяз дна, праз якія павінна праляцець страла і папасьці ў цэль. Цяжкасьць такой стральбы заключаецца ў тым, что страла пры палёце апісвае дугу, а дыямэтр бочак малы. Але гэтая цяжкасьць не памяшала аднэй жанчыне-стралку з лука на спаборніцтвах ў Фларыдзе (П. Амэрыка) папасьці ў цэль пяць раз з шасьці стрэлаў.

---

### Паштовая скрынка.

**Гедрановічу Міхасю**. Ваш артыкул „Бюрократызм арудуе“ пасланы на расьследваньне ў належныя органы. Таварышам, даслаўшым у рэдакцыю заметкі, артыкулы і лісты і не паказаўшым поўнасьцю свайго прозьвішча, імя і па бацьку, а таксама дакладнага адрасу, ніякіх адказаў рэдакцыя не дае і матар'ял у часопісі не зьмяшчае.

**Рэд.**

### Перапіска з чытачом.

Сідарэнку (Брагін). На першае пытаньне даваўся адказ у „Перапісцы з чытачом“ часопісі „Паляўнічы Беларусі“ № 7.

Паляўнічы з білетам, выдадзеным органамі Украінскай паляўнічай каапэрацыі ня мае права паляваць на тэрыторыі БССР.

ЦАНА 30 кап.

# ПРАЦЯГВАЕЦЦА ПАДПІСКА НА 1929 ГОД

НА САМУЮ РАСПАЎСЮДЖАНУЮ
оооо НА БЕЛАРУСІ оооо
ШТОМЕСЯЧНУЮ ЧАСОПІСЬ

# ПАЛЯЎНІЧЫ БЕЛАРУСІ

ОРГАН БЕЛАРУСКАГА
ПРАМЫСЛОВА-КААПЭРАЦЫЙНАГА
САЮЗУ ПАЛЯЎНІЧЫХ

**ТРЭЦІ ГОД ВЫДАНЬНЯ**

„ПАЛЯЎНІЧЫ БЕЛАРУСІ“ шырока адбівае пытаньні аднаўленьня паляўнічай гаспадаркі, працу ахоткаапэрацыйных арганізацый Беларусі і жыцьцё на мясцох.

„ПАЛЯЎНІЧЫ БЕЛАРУСІ“ дапамагае правільнаму вядзеньню паляўнічай гаспадаркі, зьверагадоўлі, сабакагадоўлі і г. д.

„ПАЛЯЎНІЧЫ БЕЛАРУСІ“ адбівае пытаньні барацьбы з драпежнікамі і браканьерамі.

„ПАЛЯЎНІЧЫ БЕЛАРУСІ“ знаёміць чытача з жыцьцём і норавамі жывёлы.

„ПАЛЯЎНІЧЫ БЕЛАРУСІ“ знаёміць сваіх чытачоў з паляваньнем за граніцай.

„ПАЛЯЎНІЧЫ БЕЛАРУСІ“ дае парады чытачом і зьмяшчае афіцыйныя пастановы і распараджэньні Ураду, якія маюць сувязь з пытаньнем паляваньня.

„ПАЛЯЎНІЧЫ БЕЛАРУСІ“ асьвятляе больш важныя палітычныя пытаньні краіны.

„ПАЛЯЎНІЧЫ БЕЛАРУСІ“ садзейнічае разьвіцьцю кроўнай сабакагадоўлі і палепшаньню прамысловае сабакі.

У часопісе прымаюць удзел лепшыя навуковыя сілы на Беларусі, а таксама навуковыя сілы іншых рэспублік, практыкі паляўнічай каапэрацыі, пісьменьнікі-бэлетрысты і г. д.

**УМОВЫ ПАДПІСКІ:**

| | | | |
|---|---|---|---|
| **На 1 год** | **2 руб. — к.** | **На 3 месяцы** | **70 к.** |
| **На поўгода** | **1 руб. 20 к.** | **Асобны нумар каштуе** | **30 к.** |

Гадавыя падпісчыкі атрымаюць усе нумары з пачатку года і бясплатны дадатак—кніжку Аляксеева „Паляўнічы сабака, яго гадоўля і навучаньне“.

ПАДПІСКА ПРЫМАЕЦЦА: ва ўсіх паштовых аддзяленьнях, усіх райбюро калектыву саюзу паляўнічых, акруговых праўленьнях і ў Ц. П. Белкахотсаюзу (г. Менск, Савецкая, 71).

# Выдавецтва „ПАЛЯЎНІЧЫ БЕЛАРУСІ“

## МАЮЦЦА ДЛЯ ПРОДАЖУ:

Проф. А. В. Федюшин. Динамика и географическое распространение охотничьей фауны БССР. 1 р. 50 к.
Квяткоўскі і В. Федасееў. Як здымаць шкуркі з пушных зьвераў. Перапрацавалі і прыстасавалі да беларускіх умоў Данькоў і Шмідт . . . — 25 к.
Аляксееў. Паляўнічы сабака, яго гадоўля і муштроўка . . . — 40 к.
Проф. Елагин. Доходное кролиководство . . . — 45 к.
Паляўнічы насьценны табель-каляндар на 1929 г. (штомесячны адрыўны) . . . — 10 к.
Камплекты часопісі „Паляўнічы Беларусі“ за 1927 і 1928 г. . . . 3 р. —

**Пералічаная літаратура высылаецца па атрым. грошай ці наложаным плацяжом.**

ПЕРАСЫЛКА ЗА КОШТ ВЫДАВЕЦТВА.

*АДРАС: г. Менск, Савецкая, 71, В-ва „Паляўнічы Беларусі“.*